**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 7.30, 17.18, 9.48;
Віцебск — 7.23, 17.04, 9.41;
Магілёў — 7.19, 17.04, 9.48;
Гомель — 7.13, 17.08, 9.55;
Гродна — 7.45, 17.34, 9.49;
Брэст — 7.41, 17.38, 9.57.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 11 лютага.

**ІМЯНІНЫ:**
Іавіта, Фаўстына.



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 40 кап.

15 ЛЮТАГА 1992 г. субота, № 33 (21811)





## РОЗГАЛАС

### НА «ГАЛОДНЫМ ПАЙКУ»

На «паўгалодны» рэжым пераведзены днямі Пухавіцкі эксперыментальны механічны завод. З-за дэфіцыту электраэнергіі энергетычныя «краны» былі перакрыты для заводскай пральні самаабслугоўвання, аздараўленчага комплексу і нават заводскай сталовай.

— І гэтым не абыдзецца,— гаворыць галоўны інжынер завода Барыс Шапята,— прыйдзецца часткова распаўсюджваць абмежаванне і на вытворчы працэс. Такім чынам, мы не толькі не дадзім прадукцыі, але і будзем вымушаны зніжаць заработную плату рабочым, што ў наш час падобна самазабойству.

### ШТО ДЗЕНЬ НАСТУПНЫ НАМ РЫХТУЕ?

**ЛІДА (А. Дук). На 4-дзённы рэжым работы перайшоў завод «Лідсельмаш». Да выхадных суботы і нядзелі прыбавіцца пятніца.**

На гэту меру машынабудаўнікі вымушаны былі пайсці з-за недахвату металу і камплектуючых матэрыялаў. Калектыў завода па прапанове прафкома і іншых грамадскіх арганізацый згадзіўся са змяншэннем працоўнага тыдня, каб папярэдзіць масавае скарачэнне работнікаў. Вынікам гэтага будзе значны спад аб'ёмаў вытворчасці.

Штосьці падобнае складваецца сёння і на заводзе электравырабаў, у цэхах іншых прадпрыемстваў. Забеспячэнцы вяртаюцца з камандзіровак па краінах СНД з пустымі рукамі.

### НЯПЭЎНАСЦЬ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**САЛІГОРСК. Незалежныя прафсаюзы гарнякоў Беларусі вядуць у Мінску перагаворы з Вярхоўным Саветам і Саветам Міністраў рэспублікі. Забастоўка салігорскіх шахцёраў пакуль што прыпынена. Стан няпэўнасці працягваецца.**

### ДЗЕЦІ ЧАРНОБЫЛЯ БУДУЦЬ ЛЯЧЫЦЦА Ў ВЕНГРЫІ

Плённым аказаўся візіт дэлегацыі Беларусі на чале з міністрам замежных спраў П. Краўчанкам у Венгерскую Рэспубліку. У ходзе яго адбыліся перагаворы паміж Краўчанкам і міністрам замежных спраў Венгрыі Г. Есенскі. Былі абмеркаваны пытанні развіцця двухбаковых адносін, падпісаны пратакол аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж дзяржавамі.

Беларуская дэлегацыя наведала горад Хаймашкер, дзе сустрэлася з прадстаўнікамі мясцовых улад, актывістамі Фонду «Спадчына Чарнобыля». З прадстаўнікамі фонду дасягнута дамоўленасць аб стварэнні рэабілітацыйнага аздараўленчага цэнтра для беларускіх дзяцей, якія пацярпелі ад аварыі ў Чарнобылі. Цэнтр будзе існаваць на базе ваеннага гарадка, дзе раней размяшчаліся часці Савецкай Арміі.

**Л. ТУГАРЫН.**

### Мільёны на рахунак незалежнасці

12 лютага з Масквы вярнуўся народны дэпутат Беларусі, прэм'ер «ценявога кабінета» Уладзімір Заблоцкі. Ён у саставе дэлегацыі прымаў удзел у сустрэчы з прадстаўнікамі камісіі Еўрапейскай эканамічнай супольнасці. Гаворка ішла пра ўмовы тэхнічнай дапамогі рэспублікам СНД.

Падчас яе вырашана, што кожная дзяржава Садружнасці будзе самастойна супрацоўнічаць з ЕЭС на аснове двухбаковых пагадненняў. У прыватнасці, у Мінску будзе створана пасольства ЕЭС, Беларусь прызначыць свайго каардынатара. Магчыма, ім будзе намеснік Старшыні Савета Міністраў Міхаіл Дзямчук.

Беларусь можа разлічваць прыблізна на 30 мільёнаў долараў — на ўмовах, што грошы гэтыя будуць выдзелены пад канкрэтныя праекты, распрацоўваць якія возьмуцца або толькі спецыялісты з Захаду, або разам з беларускімі.

Паводле слоў Уладзіміра Заблоцкага, варта было б ужыць абяцаную суму долараў на рэканструкцыю Брэсцкага чыгуначнага вузла, на ажыццяўленне праграм па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы і па энергетыцы.

**Алесь КНЯЗЮК.**

### ГОЛАД НЕ ЦЁТКА. НАВАТ ПАПЯРОВЫ

**СТОЛІН (Ю. Дубіна). З раённых газет Брэстчыны больш за ўсё не шанцуе, пэўна, столінскім «Навінам Палесся». З-за дэфіцыту паперы газета села на строгую дыету — з пачатку гэтага года падпісчыкі атрымліваюць яе раз у тыдзень.**

Кажуць, часовая мера. Але тое ж гаварылі і крыху раней, калі газета пераходзіла на двухразовы выхад. Дарэчы, штат супрацоўнікаў скараціўся напалавіну. І гэта, відаць, не ўсё...

Суцяшае адно: раённае радыё, якое, не перанёсшы жабрацкіх умоў існавання, было ліквідавана 16 верасня 1991 года, пачынае новае жыццё. Так вырашыў Столінскі райвыканком, усклаўшы на свае плечы клопаты пра тэхнічнае забеспячэнне. Двойчы на тыдні яшчэ са студзеня перадачы раённага радыё павінны былі выходзіць у эфір. Але да гэтага часу яно маўчыць, нібы вады ў рот набрала. Прычына элементарная — ні магнітафона, ні батарэек да яго не дастаць. І калі з'явяцца ў продажы — невядома. Застаецца чакаць... Толькі чаго?

### ПРЭСА МАЎЧАЦЬ НЕ ХОЧА

**Няма патрэбы многа гаварыць аб тым, у якім становішчы апынуліся друкаваныя сродкі масавай інфармацыі, якія, бадай, першымі прынялі на сябе ўдар рынку. Як заявіў днямі рэдактар «Комсомольской правды» В. Фронін, калі расійскім урадам не будуць прыняты надзвычайныя меры, газета зможа выходзіць не больш месяца.**

У такім жа бядотным становішчы апынуліся і многія іншыя папулярныя расійскія выданні. З-за хранічных недапаставак паперы тыднямі не выходзяць рэспубліканскія газеты на Украіне, у Казахстане, іншых дзяржавах СНД, што расцэньваецца там як спроба Расіі ўстанавіць інфармацыйную блакаду і выклікае рэакцыю ў адказ.

Раз-пораз прэса аказваецца перад ультыматумам з боку ведамстваў-манапалістаў без усялякіх папярэдніх кансультацый і перагавораў, яе наўмысна штурхаюць да канфрантацыі з урадам, да крайніх мер.

Між тым, Канфедэрацыя журналісцкіх саюзаў, Камітэт па абароне свабоды слова і правоў журналістаў, СЖ Расіі абмяркоўваюць ідэю правядзення журналісцкай акцыі «Дзень без навін». Яе сутнасць: ні ў адным нумары ніводнай газеты не будзе апублікавана ніводнага паведамлення аб дзейнасці ўрадаў, парламентаў, прэзідэнтаў.

У якасці аднаго са сродкаў выжывання газет прапануецца неадкладна размарозіць частку сродкаў былой КПСС, тым больш, што «партыйныя грошы» ў значнай меры ў свой час прэсай і зароблены. Выкарыстаць гэтыя сродкі можна было б хоць бы для прадастаўлення беспрацэнтнага крэдыту, што дазволіла б устанавіць на гэты год фіксаваныя цэны на паперу.

## На вуліцы—снег і дождж. А ў Мінску—горача. І—трывожна



**Аэрапорт «Мінск-2» працаваў у мінулы чацвер з вялікай нагрузкай. Яшчэ б: за якія-небудзь шэсць гадзін тут, акрамя рэйсавых самалётаў, прызямліліся восем срэбракрылых лайнераў з афіцыйнымі дэлегацыямі на бортах. Восем прэзідэнтаў краін — членаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў — разам са сваімі камандамі прыбылі ў беларускую сталіцу, якая, як вядома, з'яўляецца каардынацыйным цэнтрам СНД, на чарговую рабочую нараду. Дэлегацыі ж дзвюх краін — Таджыкістана і Украіны — прыляцелі іншым часам: першая — напярэдадні, прычым — звычайным пасажырскім рэйсам: другая прыбыла ў Мінск учора раніцай— літаральна з карабля на баль...**

Самалёт і сапраўды называюць часам караблём, а вось наконт балю... Не ведаю, таму не буду і казаць адназначна і катэгарычна. Балю, хутчэй за ўсё, не будзе. Не да яго зараз — гэта па-першае. А па-другое, тое, што на нарадзе кіраўнікоў суверэнных незалежных дзяржаў будзе горача — гэта факт!

...Учора ў адзінаццаць гадзін раніцы ў памяшканні былога ЦК КПБ на вуліцы Карла Маркса пачалося рабочае пасяджэнне нарады. Яно праходзіць за зачыненымі дзвярыма, і таму журналістаў туды, натуральна, не дапусцілі. Усяго некалькі мінут было адведзена фотакарэспандэнтам для таго, каб сфатаграфаваць удзельнікаў пасяджэння за рабочымі месцамі. Аб тым, што належыць ведаць нам, журналістам, і, натуральна ж, вам, чытачам, стане вядома пазней, на спецыяльна прысвечанай гэтаму прэс-канферэнцыі.

Перад пачаткам сустрэчы з кампетэнтных крыніц да нас прасачылася пакуль што наступная інфармацыя. З чатырнаццаці пытанняў парадку дня, якія прадстаіць разгледзець кіраўнікам краін — членаў СНД, — 13 будуць прысвечаны праблемам ваеннага будаўніцтва ў Садружнасці. Гэта пытанні аб ваенным бюджэце СНД, аб Савеце Міністраў абароны суверэнных дзяржаў, аб лёсе стратэгічных войск Садружнасці, аб новых агульнавайсковых статутах і інш. Усе яны, безумоўна, важныя, надзённыя.

У чацвер раніцай на ваенным аэрадроме ў Мачулішчах пад Мінскам для ваенных экспертаў, якія на працягу трох дзён рыхтавалі праекты будучых дакументаў (а гэта, дарэчы, звыш ста чалавек, у асноўным — генералы), была наладжана сапраўды грандыёзная выстаўка-дэманстрацыя баявой сучаснай ваеннай тэхнікі. Дэманстраваліся, у прыватнасці, рэактыўныя знішчальнікі, аб існаванні якіх раней, акрамя саміх вайскоўцаў, ведалі хіба што толькі разведчыкі заходніх краін. Міністры абароны дзяржаў Садружнасці з задавальненнем азнаёміліся з тэхнікай і, мяркуючы па ўсяму, яшчэ больш задумаліся над будучыняй былой Савецкай Арміі, пра якую, як вядома, па ўсяму свету ходзіць легенда як пра «несокрушимую и легендарную». Што ж, сапраўды, ваенная сіла ў нас — на самым вышэйшым узроўні...

Галоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі Садружнасці Незалежных Дзяржаў маршал авіяцыі Яўген Шапашнікаў запэўніў нас, што нявырашаных пытанняў адносна гэтай самай будучыні арміі не засталося. Аб гэтым, дарэчы, ён адразу ж далажыў і Барысу Ельцыну, калі лайнер «Расія» з прэзідэнтам на борце прызямліўся ў Мінску. Што ж, і ад гэтага на душы ў нас стала лягчэй і цяплей: як кажуць, дай Бог!

Хоць гэта, натуральна, былі толькі прыкідкі, варыянты... Прыкідкі эканамічнага, так бы мовіць, бытавога ўзроўню. А вось да палітычнага вырашэння ваенных праблем Садружнасці Незалежных Дзяржаў шлях яшчэ, на маю думку, вельмі і вельмі цяжкі і далёкі. І аб гэтым сведчаць кароткія рэплікі, думкі і меркаванні большасці прэзідэнтаў, якія сабраліся ў Мінску.

**Мірча СНЕГУР — Прэзідэнт Малдовы:** Я буду падпісваць у Мінску тыя дакументы, якія датычаць толькі адзіных Узброеных Сіл, буду прымаць удзел у іх стварэнні і забеспячэнні.

**Нурсултан НАЗАРБАЕЎ — Прэзідэнт Казахстана:** Калі мы зможам вырашыць праблему сацыяльнай абароны ваеннаслужачых—гэта будзе вялікая перамога. Пакуль жа няма зазахавання ўзаемных абавязацельстваў і не існуе інструмента кантролю за іх выкананнем. Падзел Узброеных Сіл былога Саюза ССР можа прывесці да з'яўлення паміж рэспублікамі рознагалоссяў.

**Ісламі КАРЫМАЎ — Прэзідэнт Узбекістана:** Мы не пярэчым супраць таго, каб было агульнае камандаванне стратэгічнымі войскамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Давайце будзем ствараць аб'яднаныя Узброеныя Сілы па тыпу НАТО.

**Лявон ТЭР-ПЕТРАСЯН — Прэзідэнт Арменіі:** У выпадку развалу цяперашняй арміі ў Арменіі на дагаворных асновах будзе прысутнічаць ужо расійская армія...

**Аяз МУТАЛІБАЎ — Прэзідэнт Азербайджана:** Толькі пасля стварэння сваіх узброеных сіл кожнай суверэннай дзяржавай можа хутчэй за ўсё з'явіцца агульная ваенна-стратэгічная прастора Садружнасці Незалежных Дзяржаў у цэлым.

**Леанід КРАЎЧУК—Прэзідэнт Украіны:** Стварэнне адзіных Узброеных Сіл, у той час калі ў Садружнасці адзінаццаць суверэнных дзяржаў,—канец усяму на свеце. Армейскія інстытуты павінны знаходзіцца на месцах і падпарадкоўвацца сваім прэзідэнтам.

**Барыс ЕЛЬЦЫН — Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі:** Нам прадстаіць няпросты пошук рашэнняў, якія задавальнялі б усіх. Разам з тым, я спадзяюся на поспех мінскай сустрэчы. Вынікам сур'ёзнай работы міністраў абароны краін — членаў Садружнасці — стала падрыхтоўка 13 дакументаў па Узброеных Сілах былога Саюза ССР.

Мінск. 14 лютага 1992 года. У час сустрэчы кіраўнікоў Садружнасці Незалежных Дзяржаў.
Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

Барыс Мікалаевіч пацвердзіў журналістам, што прапанаваная нядаўна Расіяй праграма кардынальных скарачэнняў ядзернай зброі была папярэдне ўзгоднена з кіраўніцтвам Украіны, Казахстана і Беларусі.

Пазіцыя ж нашай рэспублікі адносна гэтых вострых праблем была выразна сфармулявана **прэм'ер-міністрам Беларусі Вячаславам Кебічам** на сустрэчы з вайскоўцамі адной з часцей Беларускай ваеннай акругі літаральна за некалькі дзён да нарады. Нагадаю яе яшчэ раз: «Пытанне аб Узброеных Сілах— гэта краевугольны камень крохкага СНД, і калі на гэтай нарадзе мы не знойдзем прымальных рашэнняў фінансавання арміі, будучага ўстройства Узброеных Сіл, далейшае існаванне Садружнасці Незалежных Дзяржаў вельмі праблематычнае». Учора перад пачаткам сустрэчы Вячаслаў Францавіч пацвердзіў свае думкі яшчэ раз.

Думаю, змог пераканаць чытачоў: на сустрэчы будзе пасапраўднаму горача!

Акрамя агульных рабочых пасяджэнняў нарады, у час знаходжання ў Мінску прэзідэнтаў суверэнных дзяржаў пройдуць і двухбаковыя сустрэчы іх, перамовы па самых розных пытаннях і праблемах. У прыватнасці, мяркуецца, што адзін на адзін сустрэнуцца Барыс Ельцын і Леанід Краўчук. Гэта адбудзецца, хутчэй за ўсё, у суботу. Тэма гаворкі? Вядома ж, высвятленне ўзаемаадносін дзвюх краін, якія апошнім часам пачалі пагаршацца, а па ваенных пытаннях — нават абвастрацца... Правядзе шэраг гутарак з гасцямі і Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч.

У час сустрэчы прэзідэнтаў краін СНД у мінскім аэрапорце калегі — журналісты задавалі ім і іншыя пытанні. У Барыса Ельцына, напрыклад, спыталі аб цяперашніх адносінах яго з віцэ-прэзідэнтам Аляксандрам Руцкім. «Ягонай энергіі,— сказаў Барыс Мікалаевіч,— хапае на тое, каб працаваць 48 гадзін у суткі. Пагэтаму вырашана так: няхай матаецца па Расіі, і там, дзе ідзе сабатаж рэформ, наводзіць парадак. Каб ішла найперш зямельная рэформа. Няхай падтрымлівае фермерскія гаспадаркі. А прэзідэнт і ўрад будуць яго падтрымліваць... Адначасова будзем і пытаць з яго. Такім чынам, чалавек будзе заняты справай...»

Такой жа справай — актуальнай і неадкладнай — заняты зараз і самі вышэйшыя кіраўнікі краін — членаў СНД.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

### ПІСЬМО Ў НУМАР

## Мяса ўжо наеліся. Цяпер наядзімся палітыкі

**Толькі што вярнуўся з Барысаўскага мясакамбіната, куды мы павінны былі здаваць на перапрацоўку жывёлу пад спушчаны нам дзяржаўны заказ. А нас там «парадавалі»: мяса больш не прымаем, ім забіты ўсе халадзільнікі — няма куды дзяваць, гандаль адмаўляецца ад рэалізацыі, вяртае назад тое, што не раскупляецца насельніцтвам. Значыць, мяса людзі ўжо наеліся?**

Не. Я думаю, наеліся той палітыкі, якая праводзіцца ў адносінах да простага чалавека з яго жабрацкай зарплатай. Бо ці па кішэні яму мяса за 53 рублі (дарэчы, калгас прадае яго мясакамбінату па 25), элементарнае вядро за 105 рублёў, трактар за сотні тысяч?

Зараз у нас каля 100 тон жывёлы, якую не можам прадаць дзяржаве. Кожны дзень трэба дадаткова скарміць тоны кармоў, прыкласці нямала намаганняў, каб зберагчы ад хвароб і памору. А гэта ж лішнія расходы. Дзе выйсце?

Калі чую заклікі палітыкаў не дапусціць скарачэння пагалоўя, не знізіць яго прадуктыўнасці, калі чую развагі пра рынак, заўтрашнія светлыя дні, то ўсю гэту дэмагогію суадношу з нашай сённяшняй рэчаіснасцю і раблю вывады. Так званая лібералізацыя цэн не дасць палёгкі, лепш мы жыць не станем, а наадварот — гэта прывядзе да эканамічнай катастрофы.

Пакажу на нашым прыкладзе. Паколькі не прымаюць мяса, мы вымушаны будзем зменшыць колькасць жывёлы. Частка людзей застанецца без работы, гаспадарка без прыбытку і сродкаў на набыццё тэхнікі, будматэрыялаў. Прамысловыя прадпрыемствы ў сваю чаргу скароцяць вытворчасць машын, трактароў, абсталявання, таму што ні ў кога не будзе мільёнаў, каб купіць іх тэхніку ці тавары. А гэта зноў жа скарачэнне вытворчасці, новая армія беспрацоўных. Такая вось узаемасувязь. Замест «светлай будучыні» нас чакае эканамічны калапс. І ён не за гарамі, ён побач.

На тым жа Барысаўскім мясакамбінаце я бачыў, як чорныя, цвілыя каўбасы і такое ж мяса перарабляюць на новыя каўбасы і тушонку. Сабе ж ва ўрон. Затое работа ёсць. І ілюзія дастатку, — поўныя прылаўкі. Толькі купіць нельга за нашы капейкі.

У той жа час на высокіх цэнах жыруюць розныя канторы, якіх, здаецца, больш, чым было раней, і мафіёзныя структуры. Успамінаю, як восенню мы вырашылі прадаць частку бульбы на Камароўскім рынку. Тады цана была 2 рублі за кілаграм. Мы гатовы былі аддаць па 1 рублю, але нашых прадаўцоў-жанчын акружылі нейкія цёмныя асобы і сказалі: «Калі па такой цане будзеце прадаваць, абальём машыну бензінам і падпалім. Выбірайце». Яны выбралі: прыехалі дамоў.

Такое наша жыццё. Цэны «лібералізавалі» (слова якое знайшлі), цяпер будзем чакаць, калі лібералізуюць рабочага і селяніна. І іх зарплату. Ці дачакаемся?

**Аляксандр СІЛКОЎ,**
**намеснік старшыні калгаса імя Гагарына.**
Смалявіцкі раён.

## І японцы хочуць ведаць пра «Пагоню»

### АБ ЧЫМ ПІШУЦЬ «МАЛЕНЬКІЯ ЛЮДЗІ» З-ЗА МЯЖЫ Ў СВАІХ ШМАТЛІКІХ ЛІСТАХ НА АДРАС ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ!

**Мы зараз бачым у асноўным афіцыяльны бок міжнародных кантактаў Беларусі — візіты, сустрэчы, падпісанне пратаколаў, пагадненняў, абмен дыпламатычнымі нотамі і г. д.**

**Аднак, пільныя позіркі да нас звяртаюць зараз не толькі палітычныя лідэры і дыпламаты, але і, як прынята гаварыць, простыя людзі самых розных краін. Дастаткова ўзяць у рукі канверты з замежнымі маркамі, якія штодзень папаўняюць папку з грыфам «Асабістая пошта С. С. Шушкевіча».**

**Безумоўна, на кожны такі зварот даецца адказ, па магчымасці выконваюцца просьбы замежных карэспандэнтаў (а яны, дарэчы, самыя розныя — напрыклад, выслаць паштоўку з відарысамі новых дзяржаўных сімвалаў Беларусі ці нават фота Старшыні з аўтографам).**

**І ўсё ж большай часткай перапіска гэта мае зусім не прыватнае гучанне. Таму, думаецца, найбольш характэрныя фрагменты з шэрагу лістоў будуць цікавымі і для чытачоў «Звязды».**

Радкі замежных аўтараў сведчаць: людзі ўсіх краін з цікавасцю і хваляваннем назіраюць за лёсам рэспублік былога СССР, занепакоены тым, каб у высвятленні адносін не дайшло да зброі, выказваюць меркаванні наконт шляхоў выратавання становішча.

«Я хацеў бы вітаць з'яўленне Рэспублікі Беларусь як незалежнай дзяржавы. Спадзяюся, што Беларусь будзе нястомна прыкладаць усе намаганні, каб зрабіць наш свет лепшым і больш мірным» — гэта радкі з ліста грамадзяніна ЗША П'ера Эдуарда Доманда.

«Вельмі прашу, у імя выратавання нашых народаў ад маральнай знявагі і фізічнага знішчэння ў грамадзянскай вайне, якая зараз бушуе ў маёй краіне, рашуча дзейнічайце дзеля аб'яднання ўсіх славянскіх народаў — і не толькі іх — у вялікую дзяржаву раўнапраўных народаў. Гэта будзе шлях выратавання і славы», — лічыць прафесар з Югаславіі Вялько Сцепановіч.

Яго думкам сугучныя развагі Карэн Франк з Лос-Анджэлеса — пісьменніцы, спявачкі, а найбольш — грамадзянкі, зацікаўленай у міры ва ўсім свеце, — так яна напісала аб сабе.

«Аўраам Лінкальн, — піша Карэн Франк, — сцвярджаў, што разлад паміж сваімі не дасць устойлівасці. Злучаныя Штаты — не лепшая дэмакратыя ў свеце, але, нягледзячы на розныя этнічныя групы і меншасці, нам удалося застацца разам.

Мае дзядуля і бабуля — выхадцы з Расіі і Польшчы. І я ведаю, што ва ўсходніх еўрапейцаў ёсць у аснове добрыя каштоўнасці. Знайдзіце гэтыя агульныя для ўсіх рэспублік каштоўнасці і выкарыстоўвайце як краевугольныя камяні новай дэмакратыі».

Якая яна, ваша незалежная суверэнная дзяржава Беларусь? — пытаюцца многія замежныя адрасаты. І просяць даслаць паштоўкі з нацыянальнымі сімваламі, хочуць знайсці сабе ў нас сяброў, распачаць перапіску. Адно такое пісьмо — з Японіі, ад дырэктара міжнароднай лігі сяброў па перапісцы І. Фукуда.

«Мой народ амаль нічога не ведае аб вашай краіне, — піша ён. — Таму маё жаданне — умацоўваць дружбу і ўзаемаразуменне з дапамогай перапіскі.

Лісты дапамогуць добра пазнаць краіну сябра, што напісаў табе. Я вельмі хацеў бы атрымаць паштоўкі, малюнкі, праспекты...»

Для тых, хто хоча займець сабе сяброў у далёкай Японіі, паведамляем адрас:

Ichiro Fukuda,
Service Center International
Friendship Flowers.
Society International Pen
Frieden League
Minowaki Shosha Himeyi
Japan.

Роберт Клімко, грамадзянін ЗША, шукае ў Беларусі сваіх родзічаў. Яго пісьмо друкуецца з надзеяй, што нехта сапраўды адгукнецца:

«Продкі майго бацькі былі з Беларусі. Іх прозвішча—Клімковы, жылі ў вёсцы Вялікае Возера, што каля Ліды. Мой дзед Рыгор Андрэевіч і яго брат Сяргей прыехалі ў ЗША ў першыя гады стагоддзя. У іх было таксама некалькі сясцёр. Чакаю вестачкі!

Robert Klimko.
g/s V. Clark Street.
Applrton. WI 54911.
U. S. A.»

А вось Эдуард Фуцар з Кітая прыслаў на імя Старшыні Вярхоўнага Савета нават... тры банкноты. Безумоўна, гэта «фінансавая дапамога» наўрад ці адыграе нейкую ролю ў адраджэнні эканомікі Беларусі. Але кранае няхай і наіўны, аднак шчыры парыў чалавека з далёкай усходняй краіны.

Між тым, іншыя замежныя карэспандэнты сур'ёзна прапануюць эканамічнае супрацоўніцтва. Напрыклад, кампанія «Ратналока Дэлана Малер», што ў Швейцарыі:

«Наша гандлёвая кампанія вядомая ва ўсім свеце, мае добрую рэпутацыю. Гатовы працаваць з вамі на карысць Беларусі. Спадзяёмся на сустрэчу ў недалёкай будучыні».

Тут жа — пералік тавараў, якія кампанія экспартуе з Бразіліі і якія, паводле заявы мужа і жонкі Малер, гатова, калі ёсць попыт, пастаўляць нам.

Застаецца толькі ўздыхнуць: каб жа справа была толькі ў нашым попыце!

Як бачым, аб розным пішуць замежныя грамадзяне дзяржаўнаму лідэру Беларусі. І ўсё ж, калі абагульняць, бачыцца галоўнае: нас хочуць зразумець, нам зычаць дабра, з намі жадаюць сябраваць.

«Я хачу ўсталяваць добрыя адносіны паміж Турцыяй і Беларуссю ва ўсіх сферах», — піша Эмер Каліонку. Безумоўна, гэтыя радкі могуць выклікаць лёгкую ўсмешку: ці ж пад сілу асобнаму радавому грамадзяніну такая маштабная задача? Але калі збліжэння з намі гэтак вось шчыра жадаюць мільёны «маленькіх людзей» ва ўсім свеце, то гэта ўжо магутная плынь народнай дыпламатыі, якая сёння сапраўды «робіць пагоду» ў сусветнай палітыцы.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ.**

